# Канфлікт

## на начной дарозе

2 стар.

## Сядзіба Сікоры



*поўнілася галасамі*

5 стар.



***Ці будзе так выглядаць карта Беларусі?***

6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 17(108) 25 красавіка-1 траўня 2002 года

Кошт па дамове

# Чарнобыль - наш боль!




26 красавіка спаўняецца 16 гадоў з таго моманту, як адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС. І хаця станцыя знаходзіцца на Украіне, найбольш пацярпела Беларусь. 70% усіх радыёактыўных рэчываў выпала на тэрыторыі Беларусі. Тыя, хто знаходзіўся тады пры ўладзе, нічога не паведамілі насельніцтву аб аварыі. У рэспубліцы як у нічым не бывала ішла пасяўная, праходзілі першамайскія дэманстрацыі. У той час у Фінляндыі, якая на шмат кіламетраў далей ад Беларусі, на наступны дзень пасля аварыі былі выдадзены інструкцыі для насельніцтва, у якіх гаварылася, як сябе паводзіць пры павышаным радыяцыйным фоне. У нас пра аварыю паведамілі толькі праз тыдзень, прычым, інфармацыя была скажонай. Цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі таксама стараецца прынізіць наступствы чарнобыльскай трагедыі, асабліва ў зонах, падвержаных забруджванню. Выказваецца меркаванне, што ў зоне можна жыць без ніякай пагрозы для здароўя.

І ўвогуле трагедыя народа пакрысе становіцца прычынай пэўных спекуляцый. А пазіцыя тут павінна быць адназначнай: мы павінны не толькі ўспамінаць аб чарнобыльскай трагедыі нашага народа пад час яе чарговай гадавіны. Помніць – гэта значыць, рабіць усё магчымае ў нашых умовах і нават больш, каб наступствы трагедыі сказваліся ўсё менш і менш на новых пакаленнях беларусаў.

Сумленныя людзі змагаюцца за гэта. Патрабуюць ад дзяржавы і міжнароднай супольнасці адпаведных захадаў.

## Надвор`е*

Агляд складзены па дадзеных за 22/04/2002 0:00 GMT

| | 25/4 Чц | 26/4 Пт | 27/4 Сб | 28/4 Нд | 29/4 Пн | 30/4 Ат | 31/4 Ср | 1/5 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +15 | +16 | +18 | +14 | +16 | +12 | +11 | +16 |
| з 2 гадзін | +8 | +5 | +9 | +12 | +10 | +12 | +6 | +4 |
| Ціск, мм рт.сл. | 749 | 746 | 742 | 742 | 745 | 747 | 754 | 752 |
| Тэндэнцыя ціску | 0 | -4 | -3 | 0 | +2 | +3 | +7 | -2 |
| Накірунак ветру | Пд-З | Пн-У | Пд | Пд-З | Пн | Пд-З | Пд-З | Пд |
| Хуткасць ветру, м/с | 3 | 1 | 3 | 3 | 3 | 7 | 4 | 3 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

# НАВІНЫ

На мінулым тыдні Аляксандар Лукашэнка падпісаў указ, які надае Упраўленню справамі прэзідэнта права выдаваць нарматыўныя акты. Такім чынам, у Беларусі яшчэ на адзін заканадаўчы орган стала больш.

Цяпер прэзідэнцкі "заўгас" Галіна Жураўкова і яе гаспадаркі таксама з`яўляюцца цэнтрам заканатворчай дзейнасці - Упраўленню справамі нададзена права выдаваць нарматыўныя акты. Перш за ўсё гэта тычыцца размеркавання гуманітарнай дапамогі і распараджэння так званым "канфіскатам".

З 15 па 21 красавіка ў Парыжы пройдзе Тыдзень беларускай культуры. Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа (Віцебск) выступіць у сталіцы Францыі са спектаклем "Шагал... Шагал". Гэта пастаноўка ўжо была адзначана прызамі міжнародных тэатральных фестывалей – Эдынбургскага (Вялікабрытанія) і "Белая вежа" (Брэст, 2001). Акрамя гэтага, прадстаўляць нашу краіну ў Парыжы будуць салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Беларусі і вядомыя музыканты-інструменталісты.

Віцебскія пенсіянеры наўрад ці своечасова атрымаюць свае грошы. Агульная сума запазычанасці ў Віцебскі абласны Фонд сацыяльнай абароны складае сёння каля 20 мільярдаў рублёў, а неабходная сума на своечасовую выплату пэнсій – 29 мільярдаў.

Найгоршая сітуацыя з пералічэннямі грошай у пенсійны фонд у прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі: іх запазычанасць складае 70% ад агульнай сумы. Больш як 400 мільёнаў рублёў павінны фонду аршанскі інструментальны завод, каля 200 мільёнаў– наваполацкі «Вымяральнік», звыш 100 мільёнаў – обальскі керамічны завод.

Дагэтуль адносна стабільнай лічылася сітуацыя з пенсіямі ў Віцебску, аднак на сённяшні дзень няздольныя пералічыць неабходныя грошы ў пенсійны фонд і віцебскі домабудаўнічы камбінат, і завод электра-вымяральных прыбораў, і станкабудаўнічы завод «Вістан». Фінансавая сітуацыя настолькі складаная, што графік атрымання пенсій перасунуўся на некалькі дзён.

Прыватызацыя рэальна пагражае беларусу ўжо тым, што яна праводзіцца на пазаконкурснай аснове, бо Расіі канкурэнты не патрэбныя. Сёння яна проста вымушае кожнага цікавіцца станам нашай эканомікі, таму што ад яго пагаршэння пацерпяць найперш не чыноўніцтва, не Лукашэнка, а тыя, хто не здольны самастойна адстойваць свае інтарэсы, г.зн. "бюджэтнікі" ды "сацыяльнікі". Хоць паводле статыстычных звестак Беларусь мае даволі паспяховую эканоміку, са стабільнымі даходамі і расходамі грамадзян. Перад выбарамі Лукашэнка прысягаў, што месячны заробак у сярэднім па краіне складзе суму эквівалентную 100 USD. Нягледзячы на гэта Міністэрства статыстыкі ў канцы 2001 года падало лічбу сярэдняга заробку 124 тыс. руб. Запаветныя 100 USD сярэднестатыстычны беларус так і не атрымаў. І ў такіх умовах улада абвясціла аб пачатку буйнамаштабнай прыватызацыі.

Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.

Нагадваем, што наша выданне таксама можна выпісаць і на Пастаўшчыне.

# Было дзе павучыцца маладым

**19 красавіка ў Празароцкай сярэдняй школе адбылося метадычнае аб'яднанне для ўсіх маладых настаўнікаў раёна. Хоць прыехалі не ўсе – мяне самога на паездку "падбіў" адзін знаёмы – прыехаць было варта. Упершыню за працяглы час я ў школе адчуў сапраўдны жывы беларускі дух. Дырэктар і завуч нас віталі па-беларуску, такім жа чынам з намі размаўлялі настаўнікі, па-беларуску выступалі вучні.**

Спачатку хачу патлумачыць, навошта падобныя аб'яднанні праводзяцца. Як сказаў у сваім выступе завуч школы, "дыплом – гэта кшталту вадзіцельскіх правоў. Ты іх атрымліваеш, але ездзіць па-сапраўднаму яшчэ не ўмееш. Педагагічныя веды прыходзяць толькі з практыкай".

Таму для маладых спецыялістаў рэгулярна арганізуюцца падобныя мерапрыемствы.



Маладыя спецыялісты з розных куткоў раёна дабіраліся да Празарокаў аўтобусам Глыбокае-Наваполацк. Шлях назад быў куды больш складаны. Аўтобус праходзячы, і таму многім настаўнікам даводзілася стаяць. На здымку: настаўнікі Гатаўскай школы Капшуль С.С. і Чарвякова Н.Н. абмяркоўваюць будучае мерапрыемства.

Празароцкая школа на ўсіх зрабіла вялікае ўражанне, як якасцю ўрокаў, так і незвычайнай цеплынёй і пампезнасцю, з якой тут віталі маладых калег з раёна.

Маладым спецыялістам распавялі пра гісторыю і сучаснасць школы, кожнаму раздалі раздрукоўкі з інфармацыяй пра школу.

Упершыню пра Празароцкую школу ўпамінаецца ў "Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага". "Школа гмінная знаходзіцца ў Празароках. У 1885/86 навучальным годзе ў ёй было 48 хлопчыкаў".

Дакладна вядома, што з 1901 года існавала Празароцкае народнае вучылішча, а ў 20-30-я гады Празароцкая школа існавала як шасцігодка.

Першы выпуск Празароцкай СШ быў у 1951 годзе. Сёння Празароцкая сярэдняя школа ўяўляе сабой звычайную сельскую малакамплектную школу. Кантынгент вучняў за апошнія 10 гадоў не перавышае лічбы 100. Але былі гады, калі ў Празароцкай сярэдняй школе навучалася 490 вучняў.

У школе працуе дружны і зладжаны калектыў у складзе 22 настаўнікаў, з іх 8 – вышэйшай катэгорыі, 7 – першай, 2 – другой, 3 – без катэгорыі.

Як распавяла дырэктар Крупеня Зінаіда Іосіфаўна , зараз разглядаецца магчымасць ператварэння Празароцкай сярэдняй школы ў ліцэй.

Сапраўды, пабываўшы ў гэтай навучальнай установе, я быў уражаны. З'явілася жаданне пабываць тут яшчэ.

Школьны музей незвычайна багаты, навучальны працэс ідзе цікава і змястоўна. Праводзяцца экскурсіі, вандроўкі, заняткі па інтарэсах, курсы па выбару. Вучні СШ паказваюць выдатныя вынікі на раённых і абласных алімпіядах. Школа з"яўляецца культурным і асветніцкім цэнтрам вёскі.

На жаль, у школе камп'ютарны клас забяспечаны не па сучасных стандартах. Вучням даводзіцца працаваць на састарэлых «Карветах». А вось у плане замежнай мовы, тут усё ў парадку. Ёсць лінгафонны кабінет, якога няма нават у многіх гарадскіх школах.

Прыемна, што ёсць такія навучальныя ўстановы, што ў вёсках усё яшчэ можна атрымаць добрую адукацыю.

*А.Храпавіцкі (фота аўтара)*



Маладым спецыялістам паказалі канцэрт, дзе выступоўцамі былі вучні розных класаў школы. Былі паказаны сцэнкі, спяваліся песні. Не варта нават казаць, што ўсё было па-беларуску.



Па розных прадметах ладзіліся адкрытыя ўрокі. На здымку: настаўніца англійскай мовы паказвае маладым спецыялістам прыёмы працы ў лінгафонным кабінеце.




На базе школы працуе музей Ігната Буйніцкага, які ажыццяўляе і накіроўвае ўсю выхаваўчую работу. На здымку: маладыя экскурсаводы распавядаюць пра свайго славутага земляка.

Сітуацыя

# Канфлікт на начной дарозе

**У час аднаго з перапынкаў у настаўніцкай Слабадской сярэдняй школы сабраліся выкладчыкі. Я задаў калектыву толькі адно пытанне: якія адносіны настаўнікаў да таго недарэчнага і ледзь не трагічнага выпадка, што адбыўся з выпускніцай іх школы Наталляй Савельевай. Адказ быў адназначны: трэба абавязковае і кампетэнтнае разбірацельства, нават суд. Бо рабіць выгляд, што нічога асаблівага не адбылося нельга. Інакш і размову весці аб правах дзіцяці на абарону нельга. Інакш увесь той выхаваўчы працэс, які вядзецца ў школе, губляе свой сэнс.**

А цяпер ёсць неабходнасць прывесці змест заявы, якую адзінаццацікласніца Слабадской школы Наталля Савельева накіравала на імя начальніка Шаркоўшчынскага РАУС В.Шпеца:

"Паведамляю, што 27 сакавіка каля 24.00 я разам з моладдзю вярталася дадому, у вёску Сямёнавічы, з танцаў, якія праходзілі ў клубе вёскі Жукоўшчына. Недалёка ад прыпынка в. Жукоўшчына стаяла машына старшыні калгаса "Іскра" Паўлоўскага Б.П. Калі мы параўняліся з машынай, ад яе да мяне кінулася жонка Паўлоўскага. Нічога не тлумачачы, яна стала мяне збіваць: душыла за горла, хапала за валасы, рукамі і нагамі біла ў жывот. Паўлоўскі не перашкаджаў жонцы. Я звярнулася да яго, каб ён адцягнуў жонку, але ён адышоў у бок, толькі спытаўся, чыя я дачка. Мяне, збітую, вялі сябры, таму што я з цяжкасцю рухалася. Праз нейкі час машына нас зноў дагнала, і Паўлоўскі спытаўся, ці ёсць у нас да іх прэтэнзіі. Мы, перапужаўшыся, што будуць біць яшчэ, сказалі, што няма. І яшчэ Паўлоўскі загадаў, каб дома пра гэта нікому не гаварылі. Я з цяжкасцю дыхала, з роту ў мяне ішла кроў. На сённяшні дзень я адчуваю сябе дрэнна."

Такая вось заява ад няпоўналетняй. Падпісана яна 9 красавіка. Адразу ўзнікае пытанне: чаму так позна, праз два тыдні пасля здарэння? Тут увогуле многае трэба тлумачыць.

А высветліць мне ўдалося наступнае. У той вечар моладзь ладзіла ў калгасным клубе дыскатэку. Былі і старэйшыя школьнікі. І хоць многім дабірацца дадому было няблізка, напрыклад, Наталлі Савельевай пяць кіламетраў, дыскатэка доўжылася да дванаццаці гадзін. Моладзь ёсць моладзь, яе ні цемра, ні адлегласць не спыніць. Ды і якія на вёсцы яшчэ забавы?

Недзе перад закрыццём дыскатэкі на яе завітаў сын старшыні калгаса і катэгарычна запатрабаваў тэрміновага спынення танцаў. Аргументаваў гэта ён проста: клуб калгасны, а ён сын старшыні калгаса – значыць, мае права. Узнік канфлікт і распарадчыка выставілі за дзверы. Магчыма, там у цемры адбылося не толькі спрэчкі , але і бойка паміж ім і адным з удзельнікаў дыскатэкі.

Сын паскардзіўся бацьку, ну а бацька з маці і госці, што знаходзіліся ў іх, паехалі разбірацца. Хаця гэта версія. Нехта сцвярджае, што старшыня вяртаўся аднекуль па дарозе. Але тое, што гвалту і тлуму на гэтай дарозе той ноччу было шмат – сведчаць усе навакольныя насельнікі. Бацькі маладых людзей, якія былі ўцягнутыя ў канфлікт. І пацярпелых там было нямала. З абодвух бакоў. Уласна кажучы, мяне гэта цікавіць мала.

Мне найперш неабходна было знайсці адказ на пытанне: за што збілі, бязлітасна збілі маладую дзяўчыну?

Таму, натуральна, што пасля сустрэч з настаўнікамі, маці Наталлі ( сама Наталля ў той дзень адсутнічала, паехала, відаць, да дактароў), вяскоўцамі я паспрабаваў пагутарыць і з той, супраць каго накіравана сама заява дзяўчыны. Але Ірына Паўлоўская, дырэктар мясцовага музея, на маю просьбу пракаменціраваць заяву ў міліцыю адказала адмоўна, што і зафіксаваў дыктафон. З яе вуснаў прагучала слова "адвакат". Таму я выкажу меркаванне, што гэты бок сакавіцкага канфлікта падумвае ўжо і аб судовым разбірацельстве. Але на тое, ці будзе яно, могуць адказаць толькі праваахоўныя органы. Маці Наталлі Тамара Фрыдрыхаўна казала, што напярэдадні майго прыезду іх наведвалі супрацоўнікі міліцыі, заявіцельніца падпісала нейкія паперы. Справа нібыта і сапраўды будзе перададзеная ў суд.

У Шаркоўшчынскім РАУС паведамілі, што матэрыялы па гэтай справе накіраваныя ў суд.

Але чаму Наталля падала заяву толькі праз два тыдні? А дзяўчынка проста ляжала дома. Ёй было вельмі дрэнна, у школу ісці няма як. У яе сям'і не ўсё складваецца так, як трэба. Таму і бацькі не надта праяўлялі настойлівасці. Спахапіліся потым настаўнікі. Пра здарэнне на дарозе ведала ўсё наваколле. А тут дзяўчына адсутнічае на ўроках у класе, дзе ўсяго тры вучні. Яны, дарэчы, і збіралі грошы, каб было на што з'ездзіць у Шаркоўшчыну ў бальніцу. Але час, зразумела, быў упушчаны. Сляды на шыі сышлі. Вось толькі аналізы паказваюць, што з ныркамі не ўсё ў парадку. Хаця на іх Наталля ніколі не скардзілася раней.

Ёсць у гэтай гісторыі адзін нюанс, які я наўмысна апусціў. У тую ж ноч прадстаўнікі міліцыі пабывалі ў калгасе, праводзілі разбірацельства. Але, наколькі мне вядома, на экспертызу нікога з удзельнікаў канфлікту не вазілі. Таму пра ступень ап'янення таго ці іншага з іх у тую ноч гаварыць не даводзіцца , пакінем гэта па-за рамкамі гісторыі. Сумнай у рэшце рэшт гісторыі.

Сумнай і ад таго, што ў выніку пацярпела маладая дзяўчына, якая няхай і паправіць сваё здароўе, але маральную траўму залечыць яшчэ вельмі і вельмі няхутка. Сумнай і ад таго, што наша вёска, такая ціхая і талерантная раней, спазнае ўсё больш і больш неабгрунтаванага, незразумелага насілля. Якому падвержаныя не толькі тыя, хто звычна называецца "рабацягамі", але і людзі нібыта прыстойныя.

*Алесь Касцень.*

*Шаркоўшчынскі раён*

# Міліцыянер-Бэтман з Гомеля

**Участковы міліцыянер г. Гомеля Руслан Сімакін зрабіў тое, што пад сілу толькі Шварцнэгеру або Бэтману. Ён здолеў злавіць жанчыну-самазабойцу, якая скокнула з сёмага паверха.**

**А было гэта так.**

У той дзень Ларыса (жанчына-самазабойца) спачатку падпальвала свае рэчы і кідала іх з балкона, а потым села на пярэнчы, звесіўшы ногі ўніз. Яе суседка з шостага паверха, заўважыўшы гэта, кінулася наверх. Аднак дзверы ёй ніхто не адчыніў. Акрамя Ларысы, у кватэры яшчэ знаходзіўся яе п'яны муж. На лесвічнай пляцоўцы суседка сутыкнулася з участковым – старшым лейтэнантам АУС Савецкага раёна 26-гадовым Русланам Сімакіным. Ён ужо па рацыі атрымаў паведамленне аб гэтым здарэнні. Спачатку ён разам з суседкай угаворвалі жанчыну не скакаць. Але яна не ішла на ўгаворы. І што тады заставалася ? Толькі адно: паспрабаваць паймаць самазабойцу з балкона шостага этажа. І вось Ларыса скокнула. Руслан злавіў яе, перагнуўшыся праз поручні. У гэтым яму дапамагала суседка жанчыны-самазабойцы. Яна трымала яго за ногі.

Зараз Ларыса знаходзіцца пад назіраннем урачоў: праходзіць псіхіятрычную экспертызу. А Руслан Сімакін стаў сапраўдным героем.

*Т.Смоткіна*

# Справа дайшла да суда

У № 10 "Вольнага Глыбокага" за 7 – 13 сакавіка гэтага года быў надрукаваны артыкул "Падатковы шок". Сутнасць яго коратка ў тым, што Полацкая мытня прад'яўляе да так званых "гоншчыкаў", людзей, што займаліся вывазам з-за мяжы і продажам іншамарак вялікія штрафныя санкцыі, прычым, за апошнія два гады дзейнасці. Сумы даплаты складаюць дзесяткі тысяч долараў. Дасягнуты своеасаблівы рэкорд – адзін з "гоншчыкаў" павінен заплаціць сто тысяч долараў. Зразумела, яны плаціць не жадаюць, бо лічаць, што мытнікі іх падманулі, дазваляючы свабодна ганяць аўтамабілі і не папярэджваючы аб наступствах. Ды і не могуць – дзе ўзяць такія грошы.

Між тым з'явіўся афіцыйны каментарый начальніка мытнай інспекцыі дзяржаўнага мытнага камітэта Уладзіміра Васільцова, які нічога канкрэтнага па зададзеных "гоншчыкамі" пытаннях не гаворыць, толькі па чалавечы іх шкадуе. Але плаціць трэба.

У Глыбокім і Шаркоўшчыне "гоншчыкі" пакуль што знаходзяцца ў падважаным стане. У Паставах 25 красавіка адбудзецца першы суд над адным з іх. Вынікі суда мы паведамім.

*Ул. інфармацыя*

# У Полацку ёсць месца для подзвіга

**Хто цікавіўся старажытнагрэчаскай міфалогіяй, ведае, што сур'ёзная ўборка жытла альбо тэрыторыі вакол яго прыраўніваецца да подзвіга.**

Ва ўсякім разе ачыстка аўгіевых стайняў залічылася гераклу як подзвіг. Герою дапамагла прыдумка: ён перакрыў плацінай раку Алфей, і яе воды вымылі бруд з жывёльнага дварышча. Да гэтага стайні элідскага цара Аўгія не ўбіраліся дзесяць гадоў.

Нешта падобнае належыць здзейсніць гэтай вясной кіраўніцтву Полацка. Магчыма, перад імі стаіць нават больш складаная задача, бо некаторыя ўчасткі горада не ўбіраліся значна даўжэй, чым аўгіевы стайні. А час не чакае – да "Дажынак" горад павінен займець ідэальную чысціню.

У гэтыя веснавыя дні Полацк чысцяць ад ранку да вечара. Кожная мясцовая ўстанова і прадпрыемства атрымалі свой фронт работы. Ні адзін з кіраўнікоў праштрафіцца не жадае, што з гэтага вынікае – усе ведаюць.

Навучэнцы полацкай гімназіі чысцілі так званыя валы Івана Жахлівага, якія абляможваюць ніжні замак, а цяпер з'яўляюцца адной з славутасцей старажытнага горада. Абмінуць іх госці свята ніяк не змогуць – абарончыя валы выходзяць на пачатак вуліцы Еўфрасінні Полацкай, а гэта практычна цэнтр горада. Адказную работу даручылі добрасумленным школьнікам. Усё-такі гімназісты. Праўда, пакуль яны справіліся з нязначнай часткай работы. Вал яшчэ чысціць і чысціць.

Горш справы абстаяць з набярэжнай Дзвіны і поймай Палаты. Гэтыя месцы настолькі заваленыя , што маглі б стаць сапраўдным месцам новага подзвігу Геракла. Тут школьнікі, відаць, дапамагчы не змогуць. Галоўнымі забруджвальнікамі берагоў рэк з'яўляюцца жыхары прыватных дамоў. Як у сярэднявеччы, прыватнікі прывыклі ўсё смецце выкідваць у прыбярэжныя хмызнякі. Уладам неабходна вырашыць пытанне не толькі з уборкай тэрыторый, але і з арганізацыяй хаця б штотыднёвага вывазу смецця, напрыклад, з Запалоцця. Зусім побач з Сафійскім саборам, на другім беразе Палаты, цягнуцца вялізныя звалкі, як язвы на "целе" ўнікальнага прыроднага ландшафту.

*Алесь Козік*

# Надыйшлі цяжкія дні для БПСМ

Пасля таго, як артыкул аб фінансаванні БПСМ парламентарыі выкрэслілі з дзяржбюджэта, маладыя патрыёты перасталі атрымліваць заробак. Спачатку яны цярпелі. Потым паціхеньку сталі разбягацца. Толькі ў Мінску з 70 штатных супрацоўнікаў больш паловы ўжо звольнілася. Тыя ж, хто засталіся працаваць, выжываюць як могуць: хто на спонсарскую дапамогу вясковых родзічаў спадзяецца, хто зноў вярнуўся да грамадзянскіх прафесій. А хтосьці піша гнеўныя лісты ў рэдакцыі газет. У Магілёве, напрыклад, патрыёты вырашылі па-сапраўднаму прасіць і выпрасілі ў выканкома субсідыю на заробкі – як толькі будуць аддаваць? А самыя прагматычныя збіраюцца падаваць у суд на сваіх работадацеляў – гэта значыць на ЦК БПСМ.

*Т Смоткіна*

# Глыбокае – цэнтр акругі?

Для большасці чытачоў газеты, канечне ж, такія адміністрацыйныя катэгорыі падзелу нашай зямлі, як "вобласць", "раён" даўна сталі звычнымі, не выклікаюць ніякіх пярэчанняў. Але, калі заглянуць у нашу гісторыю, то акажацца, што і ў самых назвах тэрытарыяльных адзінак адбываліся немалыя змены, трансфармацыі. У часы Вялікага Княства Літоўскага яго землі дзяліліся на ўдзельныя княствы, ваяводствы, паветы. Захоўваліся яны і пры аб'яднанні нашай дзяржавы з Польшчай у Рэч Паспалітую. Перакройка адміністрацыйнага дзялення і карэнныя змены пачаліся пасля таго, як у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай увайшлі беларускія землі ў склад Расійскай імперыі. Тут ужо з'явілася вызначэнне "губернія". Дарэчы, і бальшавікі, прыйшоўшы да ўлады, нейкі час захоўвалі за буйнымі рэгіёнамі гэту назву. Потым яны, відаць, заўважыўшы у самой ёй нейкі адгалосак часоў праклятага царызму, спыніліся на вызначэнні "вобласць".

Для нашых жа заходніх раёнаў Віцебшчыны, якія былі пад уладай Польшчы, да 1939 года заставаліся і ваяводствы, і паветы. Ну а новыя ўлады ў Заходняй Беларусі імкнуліся стварыць як мага больш новых абласцей і раёнаў. Акрамя Глыбокага раённым цэнтрам была Пліса, у Пастаўскім — Дунілавічы. Гэта і зразумела, дробячы тэрытарыяльныя адзінкі, улады такім чынам набліжалі да насельніцтва апараты карных органаў, каб ямчэй было выкараняць іншадумства і "сацыяльна небяспечны элемент".

Ужо ў часы перабудовы, а потым з набыццём нашай рэспублікай незалежнасці пачало ўзнікаць разуменне таго, што шэсць абласцей і за сотню раёнаў для самастойнай краіны – немалая раскоша. Апарат кіравання ў абласцях і раёнах раздуты. Часта дубліруе адзін аднаго, патрабуе шматлікіх удакладненняў і ўзгадненняў, пакідае мала прасторы для арганізацыі мясцовага самакіравання. Ды што там, прыкінце, колькі ад Глыбокага, Браслава ці Пастаў да абласнога Віцебска і колькі да сталічнага Мінска.

Вось чаму ідэі адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы, як кажуць, лунаюць над намі.

Безумоўна, на Беларусі ёсць патрэба адмовіцца ад груваздкіх абласцей, якія толькі і дублююць цэнтр. Ды і да адміністрацыйнай адзінкі, жыццё патрабуе, каб адлегласць была ў межах гадзіны – паўтары язды на аўтамабілі.




На гэтай карце, распрацаванай Рэспубліканскім Цэнтрам Кадастру Тэрыторый, вы бачыце праект адмовы ад абласцей і стварэнне акруг. І , як бачыце, мяркуецца, што Глыбокае стане цэнтрам акругі, у якую ўвойдуць тэрыторыі цяперашніх Глыбоцкага, Пастаўскага, Браслаўскага, Докшыцкага і Шаркоўшчынскага раёнаў. Праўда, патрэбна агаворка. Паміж Глыбоцкай і Полацкай акругамі мяжа паказана альтэрнатыўная. Магчыма і аб'яднанне гэтых дзвюх акруг.

Але будзем спадзявацца, што Глыбокае ў будучым стане ўсё-такі цэнтрам акругі. Што ж да пераўтварэнняў, то яны відаць непазбежныя. Планы рэформы выспяваюць не толькі ў дзяржаўных структурах. Іх шырока падтрымлівае дэмакратычная частка грамадства.

А з'яўленне акруг аўтаматычна пацягне за сабою і рэфармаванне раённых улад. Бо тэрыторыям не патрэбныя шматлікія "белыя дамы", поўныя чыноўнікаў, занятых у асноўным паператворчасцю. Акруга пryме на сябе цяжар адміністрацыйнага камандавання, а на іх тэрыторыях патрэбна смялей уводзіць самакіраванне.

*Алесь Касцень*

# Размова з глыбоцкімі ды-джэямі



Наш горад багаты на розныя моладзёжныя "тусоўкі". Ёсць брэйкеры, байкеры, металісты і г.д., але ўсе яны наведваюць дыскатэку. Наша размова – пра мясцовую глыбоцкую дыскатэку і яе ды-джэяў. Зараз дыкатэка праходзіць кожную суботу ў памяшканні гарадскога Дома культуры. Яе праводзяць Сухоўскі Аляксандр, Нарыцын Ігар і Грыцкевіч Мікалай. У кожнага з іх свая задача. Напрыклад, Сухоўскі Аляксандр адказны за мікрафоны, а Мікалай Грыцкевіч і Ігар Нарыцын адказныя за музыку і светамузыку. Спаткаўшы нядаўна нашых Аляксандра і Ігара, я вырашыў задаць ім некалькі пытанняў. Інтэрв`ю з імі прапануем вашай увазе.

**- Што вас падштурхнула на работу ды-джэя?**

*Аляксандр:*

-- Па суботах і нядзелях у мяне шмат вольнага часу. Я даўно марыў паспрабаваць сябе ў ролі ды-джэя, вядучага дыскатэк. Але на дадзены момант я не працую, а стажыруюся ў Доме культуры. Мне ў гэтым мне дапамагаюць Ігар і Мікалай.

**-- Ігар, як даўно Вы працуеце ды-джэем і ці падабаецца Вам гэта работа?**

-- Ды-джэем я працую ўжо 5 год. Але ў ГДК – усяго 4 месяцы. Да гэтага я стажыраваўся, падрабатываў у розных барах, рэстаранах, начных дыскатэках. Работа ды-джэя мне вельмі падабаецца. Кожную суботу я іду на дыскатэку і імкнуся сваю энергію перадаць нашай моладзі, праўда, толькі праз музыку. Думаю, што ў мяне гэта атрымліваецца.

**-- Ігар, Вы сказалі, што маеце вопыт работы на начных дыскатэках, але ў нас у горадзе няма такіх дыскатэк. Дзе праходзіла гэта стажыроўка?**

-- Я стажыраваўся ў начных мінскіх, віцебскіх і полацкіх клубах. Канечне, нашу дыскатэку не параўнаеш з дыскатэкамі гэтых гарадоў.

**-- А чым адрозніваюцца тыя дыскатэкі ад нашых?**

-- Возьмем, напрыклад, памяшканне. Вось у віцебскім клубе яно вельмі вялікае. Унутры ёсць стойка бара, нават стаяць столікі. Вельмі добрая светамузыка, апаратура і, зразумела, цудоўнае гучанне фанаграмы.

**-- Якой музыцы аддае перавагу наша моладзь?**

*Аляксандр:*

-- Большасць моладзі любіць танцаваць пад HOUSE. Але таксама на нашай дыскатэцы гучыць попмузыка, рок і іншыя накірункі. Як вы ўжо ведаеце, у нашым горадзе ёсць брэйкданс-каманда Deep City crew і спецыяльна для іх мы ставім BREAK BEAT, і яны танцуюць для ўсіх.

**-- Скажыце, ці падабаецца наведвальнікам дыскатэкі брэйк-данс і музыка, якую слухаюць і пад якую танцуюць гэтыя хлопцы?**

*Аляксандр:*

-- Трэба сказаць, што танцуюць не толькі хлопцы, але і дзяўчаты. А наконт таго, падабаецца такая музыка ці не, то можна сказаць, што моладзь з вялікім задавальненнем глядзіць і здзіўляецца. Трэба адзначыць, што каманда Deep City crew на 8 сакавіка зрабіла падарунак усім дзяўчатам. Свaім выступленнем яны хацелі пакарыць сэрцы дзяўчат і ў іх гэта цудоўна атрымалася. Таксама мы ўскладаем на іх вялікія надзеі, жадаем ім поспехаў у іх справе.

**-- Ігар, а чым Вы займаецеся ў вольны ад работы час?**

-- Гляжу кіно ў 21.00 на СТС (жарт). А калі быць сур'ёзным, то слухаю музыку. Але не такую, што стаўлю на дыскатэках. Мая любімая група "THERION". Таксама знаёмлюся з дзяўчатамі.

**-- Аляксандр, а чым Вы заняты, калі ёсць вольная хвіліна.**

-- Я займаюся футболам. Выступаю за футбольны клуб "Азерцы". Я там выконваю ролю абаронцы. Таксама гуляю за зборную СШ№2, бо вучуся ў 11"В"класе гэтай школы. Пасля школы паспрабую паступіць у г.Віцебск на спецыяльнасць "юрыст".

*Удзельнік каманды D-C crew b-boy`s Fashik*

# Сядзіба Сікоры
## поўнілася галасамі

**У суботу, 20 красавіка ў рэспубліцы традыцыйна праводзіўся суботнік, які некалі называлі ленінскім. Тая назва адпала, але з падачы ўлад большасць прыкмет суботнік захаваў з тых часоў. І вось сябры дэмакратычных, няўрадавых арганізацый заходняга рэгіёна віцебшчыны вырашылі правесці свой суботнік і зрабіць яго карысным найперш для захавання нашай культурнай**




У той дзень на сядзібу Івана Паўлавіча Сікоры, выдатнага беларускага садавода і селекцыянера, у вёсцы Алашкі Шаркоўшчынскага раёна прыехалі прадстаўнікі няўрадавых арганізацый з Віцебска, Шаркоўшчыны, Браслава, Пастаў, Бешанковічаў. Глыбокае прадстаўлялі сябры мясцовай філіі БНФ і рэдакцыі газеты "Вольнае Глыбокае". Старая Сядзіба Сікоры поўнілася галасамі. Справа знайшлася для кожнага. Цэлы дзень добраахвотнікі ачышчалі ад сукоў і іншага смецця стары, але яшчэ вельмі багаты на розныя віды культурных насаджэнняў сад, бялілі дрэвы, фарбавалі плот, які перад гэтым быў збудаваны ля сядзібы, высаджвалі кветкі, рабілі іншыя шматлікія работы, каб і дом, і наваколле набылі выгляд сапраўды культурнага месца, месца якое звязана з плённай і працяглай дзейнасцю чалавека, апантанага доўгія гады зрабіць гэты куток Беларусі кутком вялікіх і ўраджайных садоў і кветнікаў.



Аб мінулым сядзібы і яе насельнікаў расказвае Віктар Іванавіч Сікора. Гэта гісторыя, яшчэ жывая гісторыя.

А потым была экскурсія добраахвотнікаў па музеі Івана Паўлавіча, што знаходзіцца побач з сядзібай. Была доўгая і цікавая сустрэча з яго сынам, Віктарам Іванавічам. Ён шмат расказваў пра бацьку, пра яго дзейнасць у перадваенныя, ваенныя, пасляваенныя гады.Іван Паўлавіч не адразу дабіўся такіх вялікіх поспехаў у садоўніцтве, займеў рэпутацыю чалавека, які не толькі можа вырошчваць свае і выдатныя гатункі яблыкаў, ігруш, нават экзатычных, але прыстасаваных для нашых умоў, умоў поўначы Беларусі садовых раслін. Ён быў яшчэ і чалавекам высокай культуры, яго ведалі многія адметныя людзі таго часу. Адна перапіска з Львом талстым чаго каштуе. Бацька быў не толькі гонарам сваёй мясцовасці, адметнай асобай сярод навакольных сялян, найбольшгаспадарлівыя і прадбачлівыя з якіх прыязджалі ў Алашкі за саджанцамі. Ён быў, можна сказаць, сумленнем, розумам наваколля. Адказваў Віктар Іванавіч на шматлікія пытанні, што тычыліся і яго асабістага лёса. Лёса таксама вельмі багатага на падзеі, найбольш трагічныя, лёса чалавека, які з маладых гадоў прысвяціў сябе служэнню Беларусі, яе незалежнасці. "Вольнае Глыбокае" плануе ў бліжэйшых нумарах надрукаваць матэрыял пра Віктара Іванавіча Сікору, чалавека, якому давялося правесці дзесяць гадоў у сталінскай ссылцы па абвінавачванню ў беларускім нацыяналізме і збройным супраціўленні савецкай уладзе. Па-сутнасці аб чалавеку -- папярэдніку сённяшніх сапраўдных патрыётаў і змагароў за незалежнасць Беларусі.



На афарбоўцы новага плата ля сядзібы працуюць дзяўчаты з Пастаў -- сяброўкі Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны

Віктару Іванавічу ўжо шмат гадоў. Падводзіць зрок, падводзіць і слых. Але ён жыва цікавіцца тым, што адбываецца на Беларусі, горача абмяркоўвае апошнія падзеі палітычнага жыцця ў краіне. У яго ёсць на ўсё свой погляд. І погляд гэты загартаваны вопытам няпростага жыцця, розніцца ад нярэдкага цяпер верхагля дства. Ён піша вершы. І некаторыя з іх таксама ёсць у рэдакцыйным партфелі.

Калі ўдзельнікі мерапрыемства пакідалі сядзібу, яна выглядала нашмат утульнай і прывабнай. А хутка зацвіце сад, распусцяцца высаджаныя кветкі.

*Ул. інфармацыя.*
*Фота Ул. Скрабатуна.*



У музеі Івана Паўлавіча Сікоры ў час перапынку ў рабоце. Некаторыя з удзельнікаў суботніка тут упершыню.

# Цудоўны свет Цыгун



Шматгадовы досвед народнай медыцыны Кітая ўвасобіўся ў простай, але магутнай практычнай сістэме аздараўленчай гімнастыкі – цыгун. Яе добрыя якасці нельга пералічыць: гэта маладосць і даўгалецце, унутраная сіла баявых мастацтваў і цудадзейная свядомасць. Асабліва карысна гімнастыка цыгун для тых, хто не мае магчымасці ўдзяляць шмат часу заняткам фізкультурай і спортам. Методыкі і практыкаванні павышаюць жыццёвы тонус, дапамагаюць у працы і творчасці. Вы ўвесь час будзеце атрымліваць асалоду ад чысціні думак, свежасці свядомасці, душэўнага спакою, добрага настрою і хутка аднаўляць сілы пасля працоўнага дня. Цыгун дапамагае паніізіць дазіроўкі прыёму лекаў, а мо і ўвогуле адмовіцца ад іх. Цыгун – элексір жыцця, які заўжды з намі.

Цыгун – гэта мастацтва развіцця энергіі, асабліва для здароўя, унутранай сілы і трэніроўкі свядомасці. Па-кітайску энергія завецца цы. Цы – та самая энергія, якая дазваляе нам хадзіць і размаўляць, працаваць і гуляць, філасоўстваваць і назіраць, іншымі словамі, займацца ўсім тым, што неабходна для паўнавартаснага жыцця.

Энергія, якая ператварае толькі што з'едзены намі абед у плоць і косці, - таксама цы. Яна прыводзіць у рух мышцы, калі мы ўсміхаемся; перамагае варожыя мікраарганізмы, атакуючыя наша цела; перадае імпульсы ад мозга розным органам і тканінам і выконвае незлічоныя іншыя працэсы ўнутры цела чалавека. Мы гэтага не ўсведамляем, але менавіта яна падтрымлівае жыццё на гэтай планеце. Канечне, цы атрымліваюць не толькі з дапамогай цыгун. Звычайна людзі атрымоўваюць цы, ці жыццёвую энергію, з паветра і ежы. Але заняткі цыгун значна павялічваюць нашу энергію, дазваляюць дасягнуць большага ў жыцці.

Цыгун сапраўды старэй самой гісторыі. Ім займаліся і ў антычнасці не толькі кітайцы, але і народы іншых вялікіх культур у розных краінах і ў розныя эпохі. Гэта мастацтва было вядома пад рознымі назовамі. У Індыі, напрыклад, яго называлі йогай, старажытныя грэкі і егіпцяне называлі яго мастацтвам таямніц; у Тыбеце – мастацтвам мудрасці.

Майстры гэтых таямнічых мастацтваў, верагодна, нават не чулі пра тэрмін "цыгун". Аднак ва ўсіх гэтых мастацтвах мэты, падыходы, метадалогія і філасофія былі падобныя. Як і кітайцы, майстры іншых старажытных народаў бераглі свае таямніцы ад чужынцаў, навучаючы мастацтву толькі нешматлікіх, выбраных вучняў. Таму эзатэрычныя мастацтвы развіваліся незалежна адно ад аднаго.

Дадзеныя кітайскіх археалагічных раскопак сведчаць пра тое, што пячорныя людзі неаліту займаліся цыгун! Верагодна, шляхам спроб і памылак яны адкрылі разнастайныя тэхнікі цыгун. Напрыклад, яны вынайшлі, што, калі ў момант фізічнай напругі, падымаючы цяжкі прадмет, чалавек вымавіць "хёт", ян здолее накіраваць больш энэргіі на выкананне задачы. А калі лёгка падуць на рану, вымаўляючы гук "шссс", можна аблегчыць боль.

У наш час цыгун знаходзіцца ў стане росквіту. Ніколі раней цыгун не быў так папулярны і даступны. Такі росквіт быў немагчымы ў мінулым, калі сакрэты мастацтва моцна ахоўвалі.

Нягледзячы на цудоўныя вынікі ўжывання цыгун нацягам многіх стагоддзяў, людзі працягваюць скептычна адносіцца да цы, таму што яна нябачная вокам. Некаторыя адносіліся да цыгун як да прымхі, лічачы яго вынікі ўздзеяннем экстраардынарных сіл. Іншыя лічылі, што цы – прадукт уяўлення, а паспяховыя вынікі лячэння – наступствы шчаслівага збегу псіхалагічных фактараў.

Праведзеныя ў 1977г. у Кітаі даследванні са скарыстаннем сучаснай навуковай апаратуры адкрылі, што цы, якая выпраменьваецца майстрам цыгун, складаецца з электрамагнітных хваляў, статычнай электрычнасці, інфракрасных промняў і некаторых іншых струмянёў часціц. Так з'явілася навуковае сведчанне, раз і назаўжды падцвердзіўшая стагоддзямі выказваемыя майстрамі цыгун думкі пра тое, што цы матэрыяльна. Кітайскі ўрад зацвердзіў спецыяльныя камітэты па навучанню і распаўсюджанню цыгун на месцах і ў нацыянальным маштабе.



Зараз маючая сенсацыйны поспех падчас лячэння хваробаў цыгун-тэрапія шырока скарыстоўваецца ў шпіталях. Былі вынайдзены апараты, здольныя выпраменьваць промні, падобныя выпраменьванню ад майстроў цыгун. У 1980г. у Вольным народным шпіталі ў Шанхаі для анестэзіі пры хірургічных аперацыях паспяхова ўжывалі цы замест звычайных абязбольваючых сродкаў! Вось некалькі так званых "невылечных" хваробаў, пераможаных цыгун-тэрапіяй: артрыт, рэўматызм, бяссонніца, астма, дыябет, язва, ныркавая недастатковасць, гіпертанія, парушэнне сексуальнай арыентацыі, імпатэнцыя, мігрэнь і рак.

Некаторыя людзі скажуць, калі цыгун настолькі добры, навошта ж патрэбныя дактары? Дактары патрэбны. Калі пацыент пакутуе вострай формай хваробы, лепш звярнуцца да доктара, а не да цыгун-тэрапеўта. Аднак у іншых выпадках, такіх, як хранічныя хваробы ці хваробы, звязаныя з перараджэннем тканінаў, цыгун-тэрапія прадстаўляе цудоўную альтэрнатыву. Некаторыя будуць здзіўлены, даведаўшыся, што ўсе вышэйпералічаныя хваробы выклікаены адной прычынай – няправільным функцыянаваннем органаў з-за спынення паступлення да іх струменя цы. Любы чалавечы арганізм падобны да гіганцкага біяхімічнага прадпрыемства, здольнага прадукаваць усе хімічныя рэчывы, неабходныя для нейтралізацыі адкідаў. Аднак часткі цела, што ўтрымліваюць незлічоную колькасць залоз, павінны атрымліваць слушную інфармацыю, каб ведаць, што трэба прадукаваць. Гэта магчыма толькі калі струмень цы несупынны і гарманічны.

І сапраўды, асноўны прынцып кітайскай медыцыны кажа: калі мы ачысцім мерыдыяны, па якіх цыркулюе паток цы, зробім паток гарманічным – дык знічтожым сотні хваробаў. Так выглядае гэта вялікая медыцынская ісціна ў кароткім выкладзе.

У г.Глыбокае плануецца правядзенне семінара па аздараўленчай сістэме цыгун, пад кіраўніцтвам даследчанага інструктара, дзе будзе выкладзена методыка, а таксама арганізаваны практычныя заняткі. За даведкамі звяртацца да Лук'яненка Сяргея Аляксандравіча па т. у г.Глыбокае **2-40-66**.

# "9 плюс" для вас




1 сакавіка гэтага года ў Глыбокім адчынілася новая прыватная крама "9 плюс". Нягледзячы на тое, што працуе яна ўсяго няпоўных два месяцы, яна ўжо добра вядомая ў нашым горадзе і за яго межамі. Адметнасць яе ў тым, што такой крамы няма не толькі ў бліжэйшых райцэнтрах, але, напэўна, і ў больш вялікіх гарадах. Прадстаўлена ж у ёй усё, што неабходна для маці і яе дзіцяці. Ёсць тут касметыка і бялізна для будучых мам і немаўлят, у шырокім асартыменце прадстаўлена дзіцячае харчаванне, цацкі на любы густ, літаратура пра дзяцей і для дзяцей і шмат чаго іншага. У краме працуюць маладыя і ветлівыя прадаўцы. Яны заўсёды падкажуць вам, які тавар падыходзіць менавіта вам, дадуць аб ім поўную інфармацыю.

Ідэя адкрыць такую краму прыйшла прадпрымальніку Андрэю Барылу тады, калі ў яго нарадзіўся сын. Дастаць жа ўсё неабходнае для сына і яго маці было ў нас вельмі складана, некаторыя рэчы даводзілася прывозіць нават з суседняй Польшчы. Тады і рашыў Андрэй адкрыць "9 плюс".

Крама называецца "9 плюс" таму, што дзевяць месяцаў жанчына выношвае дзіця, чакае таго шчаслівага і адказнага моманту ў сваім жыцці, калі яна стане маці, і плюс усё астатняе, што чакае яе пасля нараджэння маленькага чалавека. Толькі жанчына ў поўнай меры можа адчуць тое шчасце, калі яна дорыць жыццё новаму чалавеку. Але разам з тым гэта і адказнасць за яго далейшы лёс, за тое, каб ён рос здаровым, развітым і фізічна, і разумова. І ў гэтым вам дапаможа крама "9 плюс". У той час, калі дзяржава больш на словах, чым на справе, клапоціцца аб сваіх маленькіх грамадзянах, дзякуючы прыватнай ініцыятыве прадпрымальніка Андрэя Барылы, мы самі можам дапамагчы нашым дзецям вырасці паўнацэннымі грамадзянамі нашай краіны. А калі нашы дзеці здаровыя і шчаслівыя, то мы можам быць упэўненымі ў сваёй будучыні.

На развітанне хочацца павіншаваць Андрэя з тым, што ён знайшоў сваю нішу на рынку тавараў і паслуг, пажадаць яму поспехаў у бізнесе, ад якога у немалой ступені залежыць будучыня нашых дзяцей, а значыць, і будучыня нашага рэгіёна.

*Зміцер Лупач*

# Ён такі красівы...

Нездарма кажуць,каб на свеце ўсе былі разумнымі, то адкуль бы мы пра гэта ведалі: не было б з кім параўнаць.

Сям'я Аліны, напэўна, трымалася, як кажуць, на яе аптымізму. Васіль, муж Аліны, калісьці статны прывабны мужчына, з кучаравым чубам, цяпер асунуўся: здаецца, ростам стаў меншы. Куды дзеўся былы спрыт? А згубіла гарэлка, якую п'юць цяпер усе, як на пагібель. Здаецца,свет перавярнуўся.

У канторы, дзе працуе Аліна, усе ведаюць, калі жанчына прыходзіць на працу ссінячаная: ноччу зноў былі "гастролі" Васіля. Змарнаваная, Аліна пастаянна жаліцца на сваю долю, кляне мужа.

Але заўсёды расказвае пра начныя выбрыкі любага з нейкай асабістай асалодай. Усе жанчыны ведаюць, хто на прыкладзе сваёй сям'і, хто з прыкладаў сваіх знаёмых, што такое дэбашыр-гаспадар у хаце. Але за доўгі час яе здзекаў у Аліны ніколі не ўзнікала жадання развітацца з мужам, каб раз і назаўжды пазбавіць сябе ад вар'ята. Таму ў канторы пасля чарговых скаргаў Аліны ўсе былі ўпэўнены , што гэта не першы і не апошні сеанс нейкага невытлумачальнага цярпення жанчыны. Гледзячы на Алініны сінякі, падбітыя вочы, слухачы пацікалі плячыма і,узыхаючы, казалі ціха: "Нейкі мазахізм".

Аднойчы ўся кантора пераканалася ў гэтым. Аліна, пабітая, нявыспаная расказвала пра выбрыкі Васіля, пра тое, як "ён ляцеў" за ёю, схапіўшы нож са стала, як яна ўцякала…

—Дзяўчаты! –ускліквала Аліна.—Я думала, што не змагу ўжо ўцячы ад яго! Ну, думаю, заб'е…

Аглянулася…Дзяўчаты, ён "ляціць" за мной-- ну, такі красівы, такі красівы!

—???

*Г.Мартыноўская*

# Жахлівы месяц у Глыбоцкай турме

## -- некалькі старонак з біяграфіі Барыса Кіта

На Беларусі і ў нашых мясцінах асабліва яшчэ да нядаўняга часу імя Барыса Кіта было мала вядомым. Між тым немалая частка яго жыцця звязаная з нашымі мясцінамі. Пазбегнуўшы сталінскіх засценкаў, ён эмігараваў на Захад. Гэта было, канечне, удачай. Але талент, вялізная працаздольнасць далі магчымасць Барысу Уладзіміравічу не проста застацца беларусам на выгнанні, а дабіцца вялікіх поспехаў у навуцы. Ён доктар філасофіі ў галіне матэматыкі ад нямецкага універсітэта ў Рэгенсбургу; ганаровы доктар навук беларускага універсітэта імя Янкі Купалы ў Гародні; заслужаны і ганаровы прафесар амерыканскага універсітэта штата Мэрыленд (ЗША); акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі (Парыж); віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Масква), сябра галоўных астранамічных таварыстваў ЗША, Англіі, Германіі. Ён стаў навукоўцам сусветнага маштабу, уклаў у падмурак асваення космасу, навуку астранаўтыку неацэнны набытак. Васіль Быкаў сказаў пра Кіта так: «Бязлітасны лёс Барыса Кіта ператварыў ягонае няшчасце ў сапраўднае шчасце. Найвялікшае на гэтым свеце, поўным жуды і бяды.»

Ваенны боль здаўна сядзіць у душы кожнага беларуса – і ў тых, хто ваяваў, і ў тых, хто нарадзіўся пасля вайны...

Спадар Барыс Кіт – не салдат, не партызан мінулай вайны, але і не калабарант, не прыслужнік акупантаў. Найперш ён – беларускі інтэлігент, патрыёт.

Як і ў міжваенны час ён імкнуўся заставацца верным свайму настаўніцкаму пакліканню – вучыць дзяцей. Ён ведаў, што без асветы нацыя прападзе. Нават калі яе не панішчуць акупанты, як панішчылі саветы. Тысячы іншых тады мелі іншую мэту – проста выжыць, захаваць свабоду, перажыць вайну, што таксама было нялёгка...

Вось некалькі старонак яго ўспамінаў.

«... Другая сусветная вайна, ці другая яе частка, калі немцы напалі на Савецкі Саюз, усіх нас захапіла раптоўна. Я тады знахадзіўся ў Вільні. Аднойчы з прыяцелем гуляў каля станцыі. А ў Вільню трапіў, уцёкшы з Беларусі. Калі я яшчэ быў школьным інспектарам Баранавіцкай вобласці, то аднойчы дачуўся, што ў Навагрудку ладзіцца вялікае зборышча беларускіх пісьменнікаў, прыехалі Янка Купала і Якуб Колас ды іншыя. Я хацеў з імі спаткацца і прыехаў з Баранавічаў у Навагрудак. Але перад тым, як пайсці на сход, зайшоў да свайго старэйшага прыяцеля доктара Станіслава Станкевіча, які яшчэ працаваў вучыцелем маёй гімназіі. І ён мне сказаў: "Барыс, дрэнная справа. Як цябе перамясцілі з Навагрудка ў Баранавічы, дык НКУС усіх нашых настаўнікаў паклікаў і пытаўся, што ты рабіў за польскім часам у Вільні? Так выглядае, што табе трэба нешта рабіць, можа выехаць куды з Баранавічаў. Ну, я тады вырашыў паехаць у Вільню. Праз якіх два тыдні пачалася вайна.

... Калі мы гулялі з Кавалевічам – былым дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі - на вуліцы, ужо пачаліся алярмы, як нам падалося, -- пробныя. Але я зірнуў на неба і пабачыў Мессершміта. "Не, - кажу, - не пробныя. Гэта паветраны напад". У першы ж дзень былі знішчаны віленскі аэрадром... пачаліся жахлівыя бамбардзіроўкі Вільні, і я вырашыў пакінуць Вільню...

Немцы так хутка ішлі наперад, што пакінулі ззаду цэлыя савецкія арміі. Атрымлівалася так, што ўдзень ідуць немцы, а ўначы – савецкія войскі. І так на працягу ўсяго абшару. Канавы, узбочыны – усё было завалена цяжкай савецкай зброяй.

Калі мы праходзілі праз Карэлічы, я раптам спаткаўся з адным сваім знаёмым, Друцькам, той быў на кані, аказваецца, ён ужо камендант паліцыі. Убачыўшы мяне, ён аж закрычаў: "Што – Барыс, адкуль ты? Мы цябе шукаем, каб расстраляць. Уцякай хутчэй!» Ён і яшчэ ўратаваў аднаго – Дыдышку, якога загадаў скінуць з грузавіка, калі яго вязлі на расстрэл. Той пасля скончыў кансерваторыю і жыве ў Мінску, а Друцька знік.

Тады я дачуўся, што што немцы, заняўшы Баранавічы, расстрэльвалі нашых школьных інспектароў...

Дарэчы сказаць, што ўсе тыя школы, дзе я калісь працаваў ці арганізоўваў іх, былі чыста беларускія. Мяне зацікавіла маладэчанская традыцыя, бо там яшчэ за царскім часам існавала настаўніцкая семінарыя, што было важна. Беларусы таму спрыялі, асабліва школьны інспектар Маладэчанскага раёна спадар Яворскі... Ён быў надзвычай цудоўны беларускі патрыёт і пачаў са мною беларускае школьніцтва на Маладэчне. Каб атрымаць дазвол, нам даводзілася ездзіць у Менск, у школьны аддзел генеральнага камісарыяту, там быў нямецкі начальнік Сівіца, а ягоны заступнік беларус доктар Скурат. Скурат быў мой калега па Віленскаму універсітэту, я з ім дружыў, і ён памагаў мне. Мы ўгаварылі немца Сівіцу даць нам дазвол адчыніць беларускую настаўніцкую семінарыю. Але гэта толькі дазвол і болей нічога. З гэтым дазволам мы, усцешаныя, прыехалі ў Маладэчна, і я разгарнуў усю справу. Атрымалі асобны дом, надрукавалі афішы. На працягу некалькіх дзён запісалі 300 чалавек моладзі... Мы не ведалі, што, апроч Менску, трэба яшчэ атрымаць дазвол ад нямецкага гебітскамісара Шмідта ў Вілейцы. Як ён даведаўся, што я без ягонага дазволу адчыніў семінарыю, дык так залаваў і на сваёй машыне прыехаў у Маладэчна. Найперш зачыніў друкарню, дзе друкаваліся афішкі, і шукаў мяне, каб арыштаваць. Я абвесціў, што семінарыя зачыняецца. Тады я паехаў у Менск, да спадара Скурата і таго ж Сівіца, дык яны кажуць: «Ну што ж рабіць? Мы цябе пашлём у другое месца». І паслалі мяне ў Паставы таксама дырэктарам беларускай настаўніцкай семінарыі, якая ўжо была адчынена. Яе адчыніў школьны інспектар і мой калега Пятро Шчасны. Там на мяне гневаліся, бо я парушыў нямецкі закон, каб не прымаць у гімназію дзяцей іншых нацыянальнасцяў, напрыклад палякаў. Я паціху прымаў іх, бо мне было іх шкада. Аднойчы, як я ехаў да свае хаты ў Лебедзеве, мяне арыштавалі і пасадзілі ў турму. 30 дзён я сядзеў у Глыбокім. Мяне абвінавачвалі, што я нібыта маю сувязь з партызанамі, што я англа-амерыканскі шпіён і г. д. Умовы ў турме былі страшэнныя – у склепе, сцюжа, стаяла адна печка, якая заўсёды капцiла, я накрываўся кажухом, каб захаваць вочы. Завяліся вошы. Кожную ноч чакаў смерці. Нас было там чалавек 30, дык кожную ноч расстрэльвалі чалавек 25, на наступны дзень зноў нагонаць і зноў расстраляюць уначы. І так цягам месяца. Мне шчасціла заставацца ў ліку тых пяці. І я ўжо пачаў траціць усялякія пачуцці, а як вывелі, дык я быў як труп.

Кожную ноч заходзіць нямецкі жандар і пачынае зачытваць прозвішчы, а як даходзіць да К, дык пачынае квеліць: кі, кі,.. Усе мы там баяліся смерці, уначы расказвалі адзін аднаму розныя аповяды. І я разам з іншымі думаў, што, можа, гэта апошні мой дзень. Сядзела шмат беларусаў, сялянаў. Памятаю аднаго, які са мною вельмі дружыў, пазней яго расстралялі, ён расказваў як яго арыштавалі. "Мая веска была блізка да чыгункі, дык уначы зімою прыйшлі партызаны, сабраліся ў маёй хаце, пасля пайшлі на чыгунку і паклалі міну, ну і ўзарвалі цягнік. А раніцай прыйшлі немцы, бо на снезе ўбачылі след ад цягніка аж да маёй хаты і арыштавалі мяне"... Такіх людзей там было шмат...

На той час ужо працавала Беларуская цэнтральная рада ў Менску, і там даведаліся, што я сяджу ў Глыбокім. Яны баранілі сваіх людзей. А ў Глыбокім быў прадстаўнік БЦР Нікандра Мядзёйка. Ён дамогся, каб мяне перавялі ў галоўную цытадэлю СД у Вілейцы. Цягніком мяне, скутага, прывезлі ў Вілейку. Пачалося новае зняволенне...

Так здарылася, што ў немца Шмідта, гебітскамісара Вілейкі, які забараніў мне школу, быў беларускі даверады пры Віленскім гебітскамісарыяце Кастусь Касяк, мой былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі. Ён мяне і ўратаваў...»

*Выкарыстаны аповяды Б.Кіта Васілю Быкаву*



Барыс Кіт. Красавік 2001 г.



Дырэктар Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Паставах Барыс Кіт сярод вучняў і выкладчыкаў, 1942 г.



Аркестр адміністрацыйна-гандлёвай школы ў Маладзечне, 1944г. Барыс Кіт у першым радзе другі справа

#  Гараскоп  24.04 -- 31.04

**Авен (21.3 -- 20.4)** Не гуляйце ў азартныя гульні, спачатку можа пашанцаваць, а потым на кон будзе пастаўлена ўсё жыццё і кар'ера. Калі незнаёмы вам чалавек прапануе здзелку – ганіце яго: нічога акрамя нараду міліцыі, гэта не прадвяшчае. Спрыяльны дзень – 25; неспрыяльны – 27.

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Інтуіцыя вас выратуе. Калі адчуеце, што вось яна, справа вашага жыцця, не раздумваючы, прымайцеся за яе. Сэрца падкажа і тое, як лепш патраціць грошы, якія зваліліся на вас. Спрыяльныя дні – 25,28; неспрыяльны – 26.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** Вазміце адгул. Колькі не старайцеся, дзякуй усё роўна ніхто не скажа. Калі вырашыце прадаўжаць працоўны марафон – то будзьце з калегамі асцярожны. Асабліва асцерагайцеся сутыкненняў з вядомымі сплетнікамі і інтрыганамі. Спрыяльныя дні – 25,30; неспрыяльны – 28.

**Рак (22.6 -- 22.7)** Вам прыйдзецца браць агонь на сябе, нават калі вы ні ў чым не былі замешаныя, хаця пара геройскіх учынкаў рэабелітуе вас у вачах калег. Фінансавая стабільнасць дазволіць вам амаль пастаянна быць у добрым настроі, а таму справы ў вас будуць ладзіцца. Спрыяльны дзень – 27; неспрыяльны – 30.

**Леў (23.7 -- 23.8)** Не прымайце ўдзел у грамадскіх мерапрыемствах. Мітынгі, рэвалюцыі, барыкады – і ніякага асабістага жыцця. Калі будзеце працягваць у тым жа духу, хутка народ з вас зробіць новага лідэра, але шчасця вам гэта не прынясе. Спрыяльны дзень – 25; неспрыяльны – 29.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Прыслухоўвайцеся да парадаў старэйшых. Тое, што вы можаце вычудзіць на гэтым тыдні ад свайго вялікага розуму, можа зрабіць вас багатым, але траўміраваным, не забудзьцеся спытаць у суседскай бабулі, як бы яна зрабіла на вашым месцы. Спрыяльныя дні – 25,30; неспрыяльны -- 27.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Вы пераважваеце адзін з самых складаных перыядаў жыцця ў гэтым годзе. Трэба быць максімальна ўважлівым. Не захапляйцеся серыяламі, так і прасядзіце ўсё жыццё каля тэлевізара. А на вуліцы, дарэчы, вясна, калі вы яшчэ не заўважылі. Самы час купіць абноўку, кажыце дзецям пабольш ласкавых слоў. Спрыяльныя дні – 25,30; неспрыяльны – 27.

**Скарпіён (24.10 – 22.11)** Забудзьцеся на мінулыя крыўды. Мінулае ўжо не зменіць, патрэбна будаваць новыя адносіны – і дома, і ў калектыве. Магчымы нечаканыя прапановы, а таксама значныя перамены ў жыцці і матэрыяльным становішчы. Спрыяльны дзень – 28; неспрыяльныя – 26,29.

**Стралец (23.11 -- 21:12)** Праца блукае недзе побач, трэба толькі прыкласці некаторыя намаганні – і заробак у вас у кішэні. Магчымы і нечаканыя прапановы падзарабіць. Не адмаўляйцеся. Паколькі маленькая справа, якую вам даручаць зараз, можа ператварыцца ў сур'ёзную работу на доўгі час. Ды і грошы заўсёды спатрэбяцца. Спрыяльны дзень – 26; неспрыяльны – 28.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Ацэньваючы сваю працу не хваліцеся, але і не будзьце занадта сціпламі. Вы – прафесіянал ў сваёй справе, а значыць, не грэх заявіць аб гэтым начальству. І намякнуць, што толькі за вашы веды і ўменне дараіла б плаціць больш. Не кажучы ўжо што вы паспяваеце выканаць мора работы на тыдні. Спрыяльны дзень – 28; неспрыяльныя – 25,29.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Ваша прыроднае абаянне – гэта яшчэ не ўсё, што патрэбна для перамогі. Прыгледзьцеся да сябе ўважліва: вы ўпэўнены, што выглядаеце адмыслова? А прычоска? А фарба нагцей? У чалавеку павінна ўсё быць прыгожа. Не забывайцеся: сустракаюць па адзёжцы. Новае начальства павінна звярнуць увагу на тое, што вы выглядаеце бездакорна, і прапанаваць вам павышэнне. Спрыяльныя дні – 25,30; неспрыяльны – 28.

**Рыбы (20.2 -- 20.3)** Усё будзе добра. Не бяда, што старыя балячкі зноў напамінаюць аб сабе. У канцы канцоў, так здараецца кожную вясну, так што прыміце ўдар стойка. Расслабцеся і думайце аб чым-небудзь прыемным. А калі з'явяцца нечаканыя грошы – смела трацце на розныя прыемныя забавы: вялікія пакупкі пачакаюць. Спрыяльны дзень – 28; неспрыяльныя – 26,30.







"Lego"
Напиток
Нелепый случай
Разгадка кода
Локомотив с вагонами
Кубинские бренди
Не выноси ... из избы
Буква кириллицы
Предатель своих идеалов
Квадратик фотоплёнки
Жаба
Багаж
Орудие труда токаря
Голубь – ... мира
Казачий верховод
"Таксист", америк. актёр
1
Летний домик
Тьма тьмущая
Муз. лад
Ряд брёвен
Болтовня
Макинтош
"Дворянское гнездо"
Первый советск. грузовик
Азиатская страна без ж/д
Греческ. богиня безумия
Беречь как зеницу ...
Продукт окисления стали
1
Противник добра
Ошибка в диктанте
Дядя Том
Порт на Аравийском море
Требует хлеба и зрелищ
Палестинец
Дом в сто этажей
После буки
Метал. щипцы
"Острая" болезнь
Вечный злодей сердцеед
Целебный корень
Роговица
Этиловый ...
Муз. форма
На голове десантника
Актёр Копелян
Столица Мордовии
2
Нежилое помещение
Не по ... шапка
Длител. обморок
Разновидность удочки
2
В голове у Винни-Пуха
Счастливая страна
Шерсть с барана
Святая гора
Блуд
Дума в Польше
Степная птица
Машина с башней
Сибирский налог пушниной
Библ. сноха
Проба на туберкулёз
Крупный попугай
Слёт
Съедобный гриб
Порт близ Парижа
Тумба
Денежная бумажка

Двое сяброў едуць у аўтамабілі. Той , што сядзіць побач з вадзіцелем, гаворыць:
--Ты можаш ехаць не так хутка. У мяне ўсё мітусіцца перад вачыма.
--А ты зрабі таксама, як я. Закрый вочы.




**"Вольнае Глыбокае"**
**Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі**
**Заснавальнік:** Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

**Рэдактар і выдавец:**
п.п. Уладзімір Скрабатун,
пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99;
**тэлефон:** 2 46 14;
**E-mail:** vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.
Спасылкі на **"Вольнае Глыбокае"** абавязковыя.

**Газета выходзіць адзін раз на тыдзень**
**Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы**
Падпісана ў друк 23 красавіка 2002 г. у 10⁰⁰
**Наклад 1000 паасобнікаў**
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 2398